# Таленты нашага краю

## ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ СТАРОНКА

**Феликс ШКИРМАНКОВ**

### Чернобыль все отнял...

*Вышел в лес я поутру*
*За грибами.*
*Все знакомыми ходил*
*Я местами.*
*Боровик, смотрю, сидит,*
*На щеках румянец.*
*Только ты ему не верь,*
*Это самозванец!*
*Он от предков благородных*
*Отличается,*
*Непригодным в пищу гриб*
*Называется.*
*У него внутри сидят*
*Меньше гниды,*
*Порожденье сатаны —*
*Радионуклиды,*
*Не увидишь в микроскоп*
*Эти хари,*
*Не попробуешь на вкус*
*Эти твари.*
*И поэтому они*
*Обнаглели*
*И внутри у всех у нас*
*Прочно сели.*
*Дело гнусное свое*
*Развивают,*
*Нас спровадить в мир иной*
*Помогают.*
*И решил я не ходить*
*За грибами.*
*Мы заделались с женой*
*Рыбаками.*
*То-то прелесть на реке —*
*Распрекрасно!*
*Воздух чистый, леса нет,*
*Безопасно!*
*Принесли домой улов,*
*Рады,*
*А они уже и в рыбе, гады.*
*И чешу теперь я плешь,*
*И не знаю,*
*Как же дальше будем жить,*
*Размышляю.*
*Что за чудо подарила*
*Нам природа!*
*А Чернобыль все отнял*
*У народа...*

**Иван ЛАПО**

### Истина

*В году уходящем*
*Мысль наводящая*
*Незаметно пришла ко мне.*
*Все плохое — оставить,*
*Все хорошее — взять!*
*Спешил, спотыкался,*
*Но никак не смог,*
*Уйти от них.*
*Уйти от самого себя.*
*Да, да, да!*
*От проблем,*
*Которых полдюжины,*
*Нерешенных вопросов,*
*От судьбы, от мечты,*
*От любимой жены,*
*Никогда,*
*Никуда*
*Не уйти.*
*Да, да, да!*

**Мікола МІНЧАНКА**

### Паціху будзем стрыч

*Ну што, буржуі, вы перамаглі —*
*Ні роднай партыі, і ні імперыі.*
*А мы ж стараліся —*
*кралі як маглі*
*І дзевак лапалі не горш за Берыі.*
*Канечне, вы на нас пайшлі*
*ў паход.*
*Мы ж іншымі былі заняты*
*справамі:*
*Старанна адгадоўвалі народ*
*На Леніне заваранымі стравамі.*
*Але дачасна ў скокі вы пайшлі.*
*Хай нашы людзі стануць*
*жабракамі*
*І хай усе пагінуць на зямлі —*
*Узыдзе камунізм пад іх рукамі.*
*А нам, як гаварыў калісь Ільіч,*
*Тады ўжо займацца будзе нечым.*
*Ну, хіба што паціху*
*будзем стрыч,*
*Як і раней, пакорлівых авечак.*

***

### Жнівень

*У суседкі дочкі —*
*Вочы, як у ночкі.*
*Вусны — вінаградзіны:*
*Доляй не абкрадзены.*
*Сцішана ракіта —*
*Жнуць на ніве жыта.*
*Быць вяселлям новым —*
*Пірагі гатовы.*
*І куды глядзелі —*
*Яблыкі даспелі:*
*Для цябе спакуса:*
*Хлопец цёмна-русы.*

**Ирина КЛИМОВА**

### О музыке

*Единственная радость —*
*Общение с тобой,*
*Моя мечта и сладость —*
*Чувствительный прибой.*
*Предчувствие везенья —*
*Блистательной поры,*
*Горю от нетерпенья*
*Взять счастье от игры.*
*Вся жизнь — игра с судьбою,*
*Желание любить,*
*Желанье быть собою*
*И без унытья жить.*
*Унынье — грех тяжелый,*
*Но даст Бог и простит*
*И стану я веселой:*
*Я — женщина-пиит.*
*Сейчас же кружат звуки*
*И с ними я кружусь.*
*Душа поет, а руки*
*Все пишут — губят грусть.*



**Увага, здымаю.**
**Фота В. Бысава.**

**Апанас ПАЛІТЫКА**

### Народ у спячцы

*Спіць край усходні і заходні,*
*Хоць ты крычы, хоць не крычы.*
*Быў першы, другі, а сягодні*
*Нам трэці бацька па плячы.*
*Гатовы мы ні піць, ні есці*
*І зноў адправіцца ў паход,*
*І на гарбу сто год пранесці*
*Яго і ўвесь ягоны род.*
*Яму мы верым, шчыра верым.*
*Ён абяцаннем дарагі!*
*На неба адчыняем дзверы*
*І ўзнімаем у багі.*
*О Божа, літасцівы Божа!*
*Скажы нам ісціну, скажы,*
*Якія шчэ народ мой можа*
*Узяць вар'яцтва рубяжы?*

**Кацярына СМОЛЬ, г. Орша**

*З неба зорачка упала,*
*Аб сундук разбілася.*
*Летась мілага кахала,*
*Сёлета забылася.*
*Стольکі снегу навеліла —*
*Па калена гразнеш...*
*Ты скажы-скажы мілёнак*
*Любіш, або дражніш?*

**Сымон КАРОЛЬ, г. Мінск**

*Вы спявайце, дзеўкі, ўсе,*
*Я спаймаў казу ў аўсе.*
*Каза лыса, без валос,*
*Патаптала ўвесь авёс.*

**Юрась ПІВУНОЎ**

### Спасаўскі навеў

*Набліжаецца да канца лета. Халодныя ранішнія росы нагадваюць пра блізкасць восені. Мінуў ужо й Спас. Менавіта ў гэта свята вось гэткай жніўеньскай парой і нарадзіліся ў мяне істоце наступныя вершаваныя радкі:*
*Вецер-гарэза*
*Хіліць галіны*
*Самотных бярозак*
*На ўскрайку сяла,*
*Лагодзіць пяшчотныя*
*Рукі рабінаў,*
*І яблыкам спелым*
*Цяжарыць зямля.*

### Д'яблы правяць баль

*Паласа нешанцавання*
*у жыцці,*
*з хвараўітаю свядомасцю*
*ў быцці.*
*І спакою не прадбачыца нідзе.*
*Кругі радасці знікаюць на вадзе...*
*У краіне роднай*
*д'яблы правяць баль,*
*з беларусаў шмат хто верыць*
*ім, нажаль.*

### Конкурс прыгажунь



**Узрост прыгажосці не перашкода. Зінаіда Дзмітрыеўна спявае і адна і ў дуэце. Спадзяюся, што ў КОНКУРСЕ ПРЫГАЖУНЬ на прыз газеты "Беларускі Усход" зойме прызавое месца.**

**Іван.ЛАПО.**
**г. Клімавічы.**




*І з тупой пакораю*
*ідзе на згубу люд,*
*знаць усе забыліся, што будзе*
*Страшны Суд....*

### Гісторыя сталіцы Прыдняпроўя

*Першае выданне кнігі "Магілёўская даўніна ў пытаннях і адказах" пабачыла свет два гады таму і прысвячалася 730-годдзю Магілёва.*

*І вось цяпер упраўленне культуры Магілёўскага гарвыканкама перавыдала гэты зборнік. Аўтары —дацэнт кафедры гісторыі і культуры Беларусі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксандр Агееў, дацэнтр кафедры філасофіі МДУ Ігар Марзалюк і дырэктар музея гісторыі Магілёва Ігар Пушкін — улічылі заўвагі да папярэдняга выдання і дапоўнілі кнігу яшчэ амаль 40 раздзеламі-пытаннямі.*

*Нагадаю, што ў кнігу ўвайшлі пытанні і адказы па гісторыі і культуры Магілёва і наваколля з моманту заснавання горада і да сучаснасці. На яе старонках у якасці ілюстрацый выкарыстаны фотаздымкі з гравюр, паштовак і фотаздымкаў канца XIX— пачатку XX стагоддзя з фондаў музея гісторыі Магілёва.*

## Шыкуем

**(Памфлет)**

**А.Капытоў**

Калі Бацька краіны аўтарытэтна заявіў: "Цэны павысім не болей як на 2-3 працэнты", мая Надзея падхапілася, як з распаленай пліты, і кінулася вон.

— Куды, любая?! — крыкнуў я наўздагон.

— У краму-у! — данеслася з канца карыдора.

Але дарэмна. Пакуль дабегла, хоць і адлегласці той паўкіламетра, алей падскочыў у тры разы, рыба ў чатыры, усё іншае не меней.

Адзінае, да чаго яшчэ можна было даскокнуць з разгону, і то чэмпіёну міра, гэта гаспадарчае мыла.

Выкладвае яго на стол Надзея і ўсхліпвае:

— Вось вам, дзеткі, алей, вось рыба, а гэта — рысавая каша, —пашморгаўшы носам дадае: — Калі раней зарплаты хапала на пяць разоў схадзіць у краму, то цяпер на адзін.

— Не панікуй, — спрабую супакоіць жонку і сябе, — яшчэ не ўсё страчана. Калі аб'яднацца з Дулькінымі, Шышкінымі і некаторымі іншымі, то ў рэшце рэшт, што тая пляшка алею, здужаем. Вопыту не пазычаць, усё жыццё аб'ядноўваемся то супраць буржуеў, то супраць кулакоў, то супраць пляшкі.

Канечне, напачатку былі непаразуменні, маўляў, што пляцеш? Зблытаць алей з гарэлкай? Але цэны ўпартая рэч, аб'яднаюць нават авечку з ваўком.

Узброіліся чайнымі лыжкамі, раздзялілі гэты літар алею на пяць сем'яў, шыкуем. Безумоўна, не забываем і пра тэлеэкран, ці не падкіне шчэ чаго?

А ён і падкідвае:

— Рускія ўзнялі цану на метал у тры разы, аб'яднанне "Шкет" у бядзе. Дык не дамо загінуць...

Колькі той бляшанкі на халадзільніку. Але калі Бацька мовіў...

Скінуліся ўсім пяціпавярховым домам, прыдбалі той "Шкет" Балдзеевым. Яшчэ і засталося. На кілаграм марскога акуня.

Раздзялілі сумленна, чэсна на аптэчных вагах, шыкуем. Але тут выступае Бацька і кажа:

— Што робіцца за маёй спінай! Ствараю камісію па цэнаўтварэнню.

Гэта нас яшчэ болей згуртавала. Цяпер ужо на бутэльку алею аб'ядноўваемся, як на "Шкета".

І нядрэнна выходзіць. На кожную сям'ю амаль сталовая лыжка. Калі ядзім салату, закапваем у кожнае вока па кроплі. Уражане —захістайся. Здаецца, што ўся салата заліта алеем, як малаком.

А гэта ўжо не голад.

Пасля чарговай заявы Бацькі аб стабілізацыі цэн, ужо мусім закапваць адно вока.

Канешне, як у любой справе па аб'яднанню, заўжды знойдуцца панікёры. Не без таго, Але рэзервы яшчэ ёсць.

Мы ўжо працуем над аб'яднаннем вуліцы, квартала. У перспектыве —чвэрць горада, палова і цэлы горад.

Спатрэбіцца — пойдзем далей, нас не спыніць, аж да аб'яднання вобласці, рэспублікі.

І куды б тая кропля ні ўпала: на дах дома, на вуліцу альбо на горад, яшчэ не голад.

І Бацька краіны можа быць спакойны за нас, і, галоўнае, за сябе.

Пры перавыбарах наступны тэрмін яму забяспечаны.

За клопаты аб людзях.


**ВЫХАДНЫЯ ДАНЫЯ**

**"Беларускі Усход"**. Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Маркаўка. Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 22-9-89, намесніка гал. рэд. — 22-00-9.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

Адказнасць за дакладнасць фактаў, падзей, прозвішчаў і іншай інфармацыі нясуць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 19 жніўня 1999 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Тыраж 1828 экз. Аб'ём І друк. аркуш. Заказ № 8.

**Галоўны рэдактар В.А. ДАЎГАЛЁЎ.**